## Пакараным за «палітыку» абяцаюць дапамогу

Кіраўнікі найбольш уплывовых у Брэсце грамадскіх і партыйных суполак абвясцілі пра намер зарэгістраваць новую грамадскую арганізацыю. Паводле першых заяваў аргкамітэту, у рэгіёне Прыбужжа наспела неабходнасць згуртавання на прынцыпах салідарнасці і ўзаемадапамогі грамадзян, якія пацярпелі ад цяперашніх уладаў за свае палітычныя прыхільнасці. Маецца на ўвазе вялікая колькасць звольненых з працы пасля выбараў 9 верасня 2001 году, а таксама асуджаных і аштрафаваных за ўдзел у шэсцях, пікетах і страйках.

На першым згуртавання прынятая так званая рабочая назва – Берасцейскі саюз салідарнасці звольненых рэжымам. Менавіта яе абяцаюць прытрымлівацца ў працэсе афіцыйнай рэгістрацыі тры заснавальнікі: Ігар Маслоўскі (Берасцейскае абласное аддзяленне Беларускага Хельсінкскага Камітэту), Георгій Руцкі (кіраўнік гарадской арганізацыі БСДП (Народная Грамада) і Яўген Бялясін (старшыня гарадской арганізацыі партыі БНФ «Адраджэнне»).

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

## Жанчыны прадэманструюць сілу

16 лютага Рада Беларускай партыі жанчынаў «Надзея» прыняла рашэнне склікаць чарговы з'езд партыі ў сакавіку. Гэта звязана з тым, што партыя мусіць вырашыць «мноства арганізацыйных праблемаў», патлумачыла старшыня партыі Валянціна Палевікова.

«Канечне, мы будзем абмяркоўваць магчымасці аб'яднання. Але не так хутка, як гэта прапануецца. Канечне, мы будзем удзельнічаць у дыялогу з сацыял-дэмакратычнымі партыямі», – падкрэсліла В.Палевікова. У хуткім часе плануецца правесці «круглы стол» «Аб перспектывах развіцця сацыял-дэмакратыі», затым пройдзе аднайменны семінар. Гаворкі пра аб'яднальны з'езд з Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамадой Станіслава Шушкевіча і з Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыяй Аляксея Караля, якая цяпер ствараецца, пакуль заўчасныя: «паводле статуту, напярэдадні «Надзея» павінна правесці свой з'езд». «Я не хачу таксама, каб партыю абвінавачвалі, што слабая сіла аб'ядналася з іншымі, каб схаваць сваю слабасць. У любым выпадку мы ідзём на з'езд, каб прадэманстраваць, што мы абноўленая арганізацыя. Пасля таго, як мы заявім пра сябе, можна будзе гаварыць пра аб'яднанне», – заявіла Валянціна Палевікова.

Старшыня «Надзеі» сцвярджае, што перамовы пра магчымае аб'яднанне з Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамадой Станіслава Шушкевіча і Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыяй Аляксея Караля знаходзяцца, як і раней, «на стадыі кансультацый». Па словах старшыні партыі, боязь, што выхад В.Палевіковай з Федэрацыі прафсаюзаў пацягне за сабой зніжэнне колькасці членаў партыі, не спраўдзілася. «Ёсць страты, канечне. Але ў сувязі з тым, што ў прафсаюзах ідуць разбуральныя працэсы, многія вызваленыя работнікі баяцца страціць працоўнае месца, таму з большым задавальненнем застаюцца ў партыі», – сказала В.Палевікова.

**Рыгор БУЯН**

## Чыгуначная аварыя пад Ганцавічамі

18 кіламетраў чыгуначнага палатна былі пашкоджаны ў выніку тэхнічнай няспраўнасці колавай пары грузавога цягніка, які накіроўваўся са станцыі Мікашэвічы (Брэсцкая вобласць) у Баранавічы.

Аварыя адбылася 18 лютага на чыгуначным перагоне Малькавічы–Ганцавічы ў Брэсцкай вобласці ў пяці кіламетрах ад райцэнтру Ганцавічы. На 235-м кіламетры магістралі з чыгуначнага палатна сышло адно кола колавай пары грузавога саставу, аднак машыніст не змог своечасова выявіць няспраўнасць. Цягнік працягваў рух і спыніўся толькі на 253-м кіламетры, калі паломку колавай пары ўсё ж заўважылі. Перад гэтым няспраўны састаў пашкодзіў 18 кіламетраў палатна.

Нягледзячы на аварыю, рух транспарту на ўчастку не спыніўся і ажыццяўляўся па другім палатне. У той жа дзень састаў, які складаўся з 59 паўвагонаў, з дапамогай аднаўленчага цягніка перавялі ў Баранавічы, а на месцы надзвычайнага здарэння распачаліся аднаўленчыя работы. Учора ўдалося адрамантаваць сем кіламетраў палатна, аднак вызначыць час канчатковай ліквідацыі аварыі пакуль немагчыма. Хутчэй за ўсё, для гэтага спатрэбіцца некалькі дзён.

Зрэшты, наступствы аварыі маглі быць больш сур'ёзныя. Ад сходу колавай пары маглі перакуліцца паўвагона з друзам, а магчыма, і іншыя вагоны, у якіх знаходзіліся звадкаваны газ і бензол. Пазбегнуць пажару пры такім развіцці падзей было б ужо немагчыма.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ**

## Беларуская *ICOMOS*

У Беларусі нарэшце створана грамадскае аб'яднанне «Міжнародная Рада па помніках і мясцінах» (больш вядомая пад абрэвіятурай *ICOMOS*), куды ўвайшлі вядомыя ў нашай краіне рэстаўратары, археолагі, архівісты, спецыялісты ў галіне культурнага краявіду – прадстаўнікі шматлікіх як грамадскіх, гэтак і дзяржаўных устаноў культуры і навукі. На чале беларускай *ICOMOS* стаў старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп.

Як ён распавёў, Міжнародная Рада па помніках і мясцінах існуе ад 1965 году, калі прынялі Міжнародную хартыю захавання і рэстаўрацыі помнікаў і мясцін. Беларусь стала апошняй краінай Еўропы, дзе з'явіўся *ICOMOS*. Адным з асноўных накірункаў дзейнасці Беларускай Рады *ICOMOS* «павінна стаць выкананне важнай ролі падчас выпрацоўкі заключэнняў *UNESCO* па культурных набытках, якія маюць быць далучаныя да Спісу сусветнай спадчыны».

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

## Павышаюцца патрабаванні да банкіраў

Нацыянальны банк Беларусі звярнуўся з лістом да кіраўнікоў беларускіх банкаў і іх назіральных радаў, у якім рэкамендаваў павысіць патрабаванні да персаналу ніжэйшага і сярэдняга звяна.

Як паведаміў БелаПАНу ва ўпраўленні інфармацыі Нацбанку, ацэнка прафесіяналізму і дзелавой рэпутацыі банкаўскага менеджменту ніжэйшага і сярэдняга звяна не ўваходзіць у кампетэнцыю галоўнага банку краіны, а з'яўляецца прэрагатывай самога банку. Разам з тым кадравая палітыка, якая праводзіцца банкамі, выклікае абгрунтаваныя нараканні як з боку Нацыянальнага банку, гэтак і пракуратуры, Міністэрства ўнутраных спраў, іншых кампетэнтных дзяржаўных органаў.

Улічваючы, што работа менеджменту ніжэйшага і сярэдняга звяна ў значнай меры ўплывае на прыняцце кіраўнічых рашэнняў і адпаведна на вынікі дзейнасці банкаў, іх стабільнае і надзейнае функцыянаванне, органы кіравання банкаў пры падборы кадраў мусяць павысіць патрабаванні да прафесіяналізму і дзелавой рэпутацыі спецыялістаў, асабліва кіраўнікоў структурных падраздзяленняў, – зазначаецца ў лісце.

**Аляксей АРЭШКА**

## Суддзі скардзяцца на слабасць

Наўрад ці сведчыць пра большую юрыдычную дасведчанасць насельніцтва Брэстчыны няўхільны рост колькасці грамадзянскіх і адміністрацыйных іскаў у судах вобласці. Разам з крымінальнымі справамі іх было разгледжана ў мінулым годзе ажно 70 000. Прыкладам, у судзе Маскоўскага раёну Брэсту дадалося 3 000 справаў, а іх агульная колькасць (пры тым жа складзе суддзяў) узрасла да 11 000. На думку старшыні гэтага суду Яўгена Вакульчыка, ускладняецца сутнасць следства і разбіральніцтва, бо злачынствы становяцца жорсткімі, цынічнымі, групавымі.

Службе Феміды зазнаюць не толькі большую фізічную нагрузку, але і псіхалагічны ўціск. Абаронцаў правасуддзя, сапраўды, варта пашкадаваць, бо 90 000 пісьмовых матэрыялаў, што прайшлі праз канцылярыю суду Маскоўскага раёну, даводзілася апрацоўваць уручную. Адсутнасць камп'ютэрызацыі ўліку павялічвае тэрміны чакання пакрыўджанымі ўсталявання справядлівасці ў судзе. У сваёй слабасці прызнаюцца тамтэйшыя суддзі і па спецыфічных для Брэсту адміністрацыйных справах па мытных правапарушэннях. У 2001 годзе рэальна былі спагнаныя штрафы толькі з 30% пакараных. Асобныя з іх дамагаюцца перагляду прысуду, скарыстоўваючы рознагалоссе нарматыўных актаў на перамяшчэнне людзей і грузаў праз мяжу, а бальшыня расійскіх парушальнікаў беларускага заканадаўства застаецца недасягальнай нават праз нібыта празрыстыя межы некіраванага Саюзу.

**Галіна БАРАВАЯ**

## Пашпартная служба будзе працаваць без выхадных

З 1 сакавіка пашпартна-візавая служба і міжраённыя рэгістрацыйна-экзаменацыйныя аддзелы будуць працаваць без выхадных і да позняга часу: зімой – да 20.00, летам – да 21 гадзіны. Такое рашэнне прыняў першы намеснік міністра ўнутраных спраў Аляксандр Шчурко.

Ён падкрэсліў, што гэтыя захады «будуць спрыяць скарачэнню чэргаў грамадзян пры афармленні пашпартоў, выдачы вадзіцельскіх пасведчанняў і іншых дакументаў».

З 1 чэрвеня 2002 году пашпартна-візавая служба МУС плануе пачаць выдачу замежным грамадзянам і асобам без грамадзянства, якія стала пражываюць на тэрыторыі Беларусі (каля 200 тысяч чалавек), «нармальных дакументаў» замест даведкі – віду на жыхарства.

Паводле словаў Шчурко, «гэты працэс зойме ад году да паўтара года» і вырашыць праблемы тых людзей, якія з 1 студзеня 2002 году сталі «нявыязнымі». Усяго ж у 2001 годзе пашпартна-візавая служба выдала больш за 1,3 млн. нацыянальных пашпартоў, а з пачатку працэсу пашпартызацыі пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь атрымалі 59,6 працэнта насельніцтва краіны.

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

## «Белы Замак-2002»

1-3 сакавіка ў Мінскім палацы дзяцей і моладзі (Старавіленскі тракт, 41) пройдзе V міжнародны фестываль сярэднявечнай культуры і музыкі «Белы Замак-2002».

У фестывалі мяркуецца ўдзел 250 прадстаўнікоў ваенна-гістарычных аб'яднанняў з Беларусі, Польшчы, Расіі і, магчыма, Украіны.

Сярод навінак фестывалю – конкурс пастановачных паядынкаў. Арганізатары фестывалю таксама маюць намер аднавіць абарону брамы замку – спаборніцтва, якое было ўпершыню апрабавана на фестывалі «Белы Замак» у 1997 годзе.

**БелаПАН**

## НАШЫ ДРЭВЫ




Галоўную вуліцу сталіцы – праспект Скарыны – пазбаўляюць жывой аздобы

## Будні мінскай міліцыі

«Міліцыя грамадскай бяспекі, спецыяльная міліцыя свае задачы летась выканала не ў поўным аб'ёме», – заявіў 18 лютага на прэс-канферэнцыі ў Мінску намеснік міністра ўнутраных спраў, начальнік міліцыі грамадскай бяспекі і спецыяльнай міліцыі МУС Беларусі Аляксандр Шчурко. Ён прызнаў, што многія работнікі падначаленых яму падраздзяленняў «пакуль яшчэ не валодаюць належным прафесіяналізмам», што «не спрыяе эфектыўнай абароне грамадзян і іх маёмасці, асабліва ў сельскай мясцовасці».

Разам з тым, падкрэсліў Шчурко, існуюць і аб'ектыўныя фактары, якія ўплываюць на выкананне міліцыяй грамадскай бяспекі і спецыяльнай міліцыяй сваіх задач. У той жа сельскай мясцовасці ўчастковыя інспектары толькі на 25 працэнтаў забяспечаны службовым аўтатранспартам; толькі 43 працэнты інспектараў пражываюць на замацаванай за імі тэрыторыі.

«Праблемы забеспячэння аўтатранспартам і будаўніцтва жылля для ўчастковых інспектараў сёння вырашаюцца разам з мясцовымі органамі ўлады», – паведаміў Шчурко. Ён таксама адзначыў, што Міністэрствам унутраных спраў «распрацавана ўсебаковая праграма, накіраваная на вырашэнне сацыяльных праблем участковых інспектараў, павышэнне іх прафесіяналізму і ролі ў грамадстве». Галоўным на сённяшні дзень Шчурко лічыць, што МУС «адышло ад практыкі пагоні за адміністрацыйнымі паказчыкамі». Зараз асноўны паказчык працы ўчастковых інспектараў, паводле словаў Шчурко, – «парадак на адміністрацыйным участку».

У дзейнасці інспекцыі па справах непаўналетніх «таксама назбіралася шмат праблем», сказаў Шчурко. На яго думку, гэта ў першую чаргу звязана з тым, што «многія былыя інстытуты падтрымання правапарадку ў асяроддзі моладзі адышлі ў мінулае».

Сёння, паводле яго словаў, «прапрацоўваецца пытанне» аб стварэнні разам з Беларускім патрыятычным саюзам моладзі «моладзевых апаратыўных атрадаў». Аднак, упэўнены Шчурко, толькі прафілактычнымі мерамі праблему моладзевай (падлеткавай) злачыннасці не вырашыць».

«Сёння ўзроставыя межы сціраюцца, і ўжо нельга казаць, што той, каму не споўнілася 16 гадоў, – яшчэ дзіця», – сказаў ён. Моладзевая злачынасць, адзначыў Шчурко, «становіцца ўсё больш жорсткай і вытанчанай», таму «на парадку дня стаіць пытанне аб стварэнні спецыяльнага падраздзялення па барацьбе са злачыннасцю ў моладзевым асяроддзі».

За адны суткі ў Мінску затрымліваюць каля 200 асобаў без пэўнага месца жыхарства, паведаміў Шчурко. Аднак спецпрыёмнікі не разлічаны на гэтулькі затрыманых. Праблема ж дзіцячай беспрытульнасці, паводле яго словаў, «не з'яўляецца вострай».

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

# Праз жыццё

*На прэзідэнцкім серверы з'явілася аператыўная інфармацыя Міністэрства статыстыкі пра поспехі народнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь у студзені 2002 году.*

Валавы ўнутраны прадукт працягвае свой устойлівы рост. Гэты эканамічны фенамен з цягам часу прымусіць грамадзянаў зацікавіцца эканамічнай тэорыяй. Імавернасць іншых наступстваў, на думку вашага карэспандэнта, вельмі малая, каб яе разглядаць асобна.

Прамысловай прадукцыі ў супастаўных коштах выраблена на 3% болей, чым год таму, але на 9% меней, чым у снежні 2001 году. Тэмпы прыросту вытворчасці спажывецкіх тавараў у першы месяц году былі амаль ўдвая вышэйшыя, чым прамысловых.

Будаўнікі паздавалі пад канец году завершаныя аб'екты. Гэта атрымалася ў іх лепей, чым летась, і індэкс інвестыцыяў у асноўны капітал склаўся на ўзроўні 112% да студзеня мінулага году. Але са згаданай прычыны ён быў толькі крыху больш за трaціну паказчыка папярэдняга месяца (35% да снежня 2001 г.).

Жылых дамоў у горадзе пабудавалі ўтрая больш, чым у вёсцы. Такая сама прапорцыя была і летась. Просты разлік дазваляе парадавацца амаль з дзвюма тысячамі гараджанаў і паўтысячай вяскоўцаў з таго паўмільёна нашых землякоў, што чакаюць свайго нармальнага кута. Якіх пяцьдзесят гадкоў – і чаргі нібыта і не было.

Калгаснікі і іншыя вясковыя вытворцы сельскагаспадарчай прадукцыі пераўзышлі леташні паказчык на цэлы адсотак. З улікам скарачэння насельніцтва на адну жывую душу мы маем на 2% харчоў болей, чым год таму. Навіна ўсяляе аптымізм у аматараў актыўнага збыту сродкаў супроць атлушчэння.

Прадукцыя *нашых* вытворцаў штогод робіцца цяжэйшай і таннейшай. Такая думка ўзнікае, калі бачыш, што грузаперавозкі транспартам агульнага карыстання ўзрастаюць хутчэй за вытворчасць усіх відаў прадукцыі ў супастаўных коштах. Грузаў перамешчана 109% да аб'ёмаў студзеня 2001 году. Няўжо міжнародны транзіт павялічыўся? То было б добра.

У людзей аднекуль з'явіліся грошы. Рознічны тавараабарот на 18% большы, чым год таму, спажыванне платных паслугаў – на 11%. Ці то ўсе хаваюць прыбыткі ад падатковых інспектараў, ці то партыя і ўрад замнога надрукавалі. Вярніцеся да лічбачак, што характарызуюць вытворчасць спажывецкіх тавараў і сельскагаспадарчай прадукцыі. Яны для гэткага росту пакупак – малаватыя. Павінен быць альбо дэфіцыт, альбо рост цэнаў. Паколькі мы ўдарна будуем капіталізм – апошняе хутчэй за ўсё адбудзецца і адрэгулюе рынак.

Пасля доўгага зацішку папаўзла ўгару колькасць беспрацоўных. У параўнанні з адпаведным перыядам мінулага году яна павялічылася на 8% і наблізілася, як зараз модна ў рускіх казаць, да «знакавай» мяжы ў 2,5% ад агульнай колькасці эканамічна актыўнага насельніцтва.

Індэкс спажывецкіх коштаў, то бок славутая інфляцыя, за месяц вырас на 6%. Прамысловая прадукцыя падаражэла на 4%. Калі справы ў гэтым кірунку і надалей пойдуць такім тэмпам, то Нацыянальны банк не здолее ўтрымліваць сітуацыю ў дакляраваным рэчышчы. Даляр праз тое стане значна даражэйшы, чым гэта ўяўлялася беларускаму начальству пры *вызначэнні параметраў* развіцця краіны на 2002 год.

Знешнегандлёвы абарот падаецца звычайна са спазненнем на месяц у параўнанні з вышэйзгаданымі асноўнымі паказчыкамі колькасці і якасці ўсенароднага жыцця. У снежні ў нас атрымалася купіць-прадаць на 3% меней, чым за снежань 2000 году.

Грошы былі патрэбныя і бюджэту, і вытворцам прадукцыі, таму экспарт вырас на 1%, а вось купляць пад канец году ўжо не было за што. Дарма што былі вялікія святы, дарма што былі вялікія абяцанні і планы на будучыню. Увезлі ў краіну на 6% меней, чым за год да таго. І тым не меней адмоўнае сальда гандлёвага балансу склала 620 мільёнаў амерыканскіх даляраў.

Фармавалася такая сітуацыя пераважна з-за таго, што нашыя эканамічныя адносіны з Расеяй набываюць гэткі ж неўраўнаважаны характар, што і палітычныя. Змаганне за танныя энерганосьбіты і сыравіну, узаемны ціск на памежжы, спробы выйграць на рускім рынку ў трэціх краінаў шляхам цэнавай канкурэнцыі, а не падвышэннем якасці нашых тавараў...

Пра што ўсё згаданае сведчыць? Толькі пра тое, што працэс глабалізацыі не абмінуў наш ціхі край гандляроў зброяй, оптыкай, электронікай і дакладнай механікай. Тое, што кожны з нас робіць у сваіх Цюцькавічах альбо ў якім горадзе, прадаецца на сусветным рынку. Бо іншага проста не засталося.

Таму незалежна ад таго, які ў нас будзе рэжым і хто будзе каму ў ім апазіцыянерам, нацыянальныя інтарэсы беларусаў застануцца нязменнымі: трэба ўтрымліваць за сабой тыя сектары сусветнага рынку, якія нам належаць дзеля збегу гістарычных абставінаў і, калі ўмовы дазваляюць, захопліваць новыя.

Для гэнага наша прадукцыя павінна быць якаснай, карыснай і таннай. Каб яна такой была, патрэбныя добрыя рукі і галовы, бо без іх не зробіш. Да таго ж патрэбнае ўменне арганізаваць не толькі вытворчасць, але і продаж таго, што зроблена. А вось каб зразумець, што будуць купляць у свеце заўтра, патрэбныя сапраўдныя беларускія капіталісты і палітыкі.

Ну вось, скажаце, прыехаў. Так. Нічога без палітыкі і стратэгіі не атрымаецца. Кітайцы вунь на экспарце дзіцячых цацак зарабляюць болей, чым руская на экспарце нафты. Бо надта любяць сваю культуру і свой Кітай. Застаюцца кітайцамі і ў Мінску, і ў Сан-Францыска (Каліфорнія). І, дарэчы, на адным Тайвані робяць таго ВУП болей, чым рускія на сваёй 1/6 частцы зямлі.

Праз жыццё не пераступіш.

**Юзік ЛАБЭЦКІ**




# Нацбанк і «Залаты талер»

З 20 лютага тэрмінам на 6 месяцаў прыпыняецца дзеянне генеральнай ліцэнзіі на некаторыя банкаўскія аперацыі ААТ «Банк «Залаты талер».

Як зазначаецца ў афіцыйным паведамленні Нацыянальнага банку Беларусі, «Залаты талер» не мажа ажыццяўляць ад свайго імя і за свой кошт здзелкі куплі-продажу замежнай валюты з беларускімі і замежнымі банкамі, айчыннымі юрыдычнымі асобамі і індывідуальнымі прадпрымальнікамі, замежнымі юрыдычнымі асобамі, за выключэннем абавязковага продажу замежнай валюты і здзелак, якія ажыццяўляюцца на падставе асобных дазволаў Нацбанку.

Згодна з паведамленнем Нацбанку, абмежаванні не распаўсюджваюцца на разліковакасавае абслугоўванне юрыдычных асоб, прыцягненне іх сродкаў ва ўклады (дэпазіты) і размяшчэнне ад свайго імя і за свой кошт. Акрамя таго, банк мае права адкрываць і весці банкаўскія рахункі суб'ектаў гаспадарання, прадаваць і купляць па даручэнні і за кошт кліентаў замежную валюту, ажыццяўляць іншыя аперацыі.

Нацыянальны банк звяртае ўвагу насельніцтва, што за ААТ «Банк «Залаты талер» захоўваюцца ўсе ліцэнзійныя паўнамоцтвы па працы з фізічнымі асобамі. Ён па-ранейшаму можа прыцягваць сродкі грамадзян на ўклады як у беларускіх рублях, гэтак і ў замежнай валюце.

**Даведка БелаПАНу.** Банк «Залаты талер» у сакавіку 1995 году пераўтвораны ў сумесны беларуска-брытанскі банк. Цяпер доля замежных інвестыцый у статутным фондзе – 95 працэнтаў. Статутны фонд банку складае 5 мільёнаў еўра.

**БелаПАН**

# Свіслач не мусіць быць сцёкавай канавай

*Да нядаўняга часу ў Беларусі, а таксама ў краінах замежжа традыцыйна правільным лічылася ўсе ліўневыя воды з тэрыторыі гораду збіраць і самым кароткім шляхам накіроўваць у найбліжэйшую раку ці возера. У Мінску для гэтага выкарыстоўваецца Свіслач: воды пасля дажджоў і таяння снегу, змываючы з сабою бензін і пясок з гарадскіх вуліцаў, трапляюць у яе праз 15 выхадаў гарадскога ліўневага сцёку.*

Па ўсёй сталіцы ліўневыя воды з вуліцаў збіраюць у сябе 5 гарадскіх калектараў – «Захад», «Цэнтр», «Камароўскі», «Сляпянскі» і «Дражня», кожны з якіх абслугоўвае адпаведную частку гарадской забудовы. Калектар уяўляе сабою падземны трубаправод, які складаецца з дзвюх-трох нітак трубаў да 2 метраў у дыяметры. Падчас таяння снегу ці ліўняў аб'ёмы вады ў калектарах рэзка падвышаюцца і ператвараюцца ў бурны паток, які можа дасягаюць некалькіх кубічных метраў у секунду.

Зараз агульнапрызнана, што ступень забруджвання паверхневага сцёку ўрбанізаванай тэрыторыі блізкая, а па некаторых паказчыках значна большая, чым забруджанасць гаспадарча-побытавых і вытворчых сцёкавых вод. Калі гэта стала відавочна, спецыялісты пачалі распрацоўваць захады па ачыстцы ліўневага сцёку.

Быў падрыхтаваны план адводу ўсіх сцёкавых водаў за межы Мінску для далейшай ачысткі. Мінула некалькі дзесяцігоддзяў, але ён так і не быў рэалізаваны. Сёння яго аднаўляюць, і інстытут «Мінскінжпраект» падрыхтаваў цэлую праграму будаўніцтва сетак дажджавой каналізацыі Мінска на 2001-2005 гады.

Адзін з галоўных калектараў – калектар «Захад», які збірае сцёк з трэцяй часткі плошчы сталіцы (6 тысяч гектараў). Дабудавалі яго толькі да Курасоўшчынскага вадасховішча, куды і трапляюць з яго ўсе сабраныя воды. А гэтае вадасховішча, дарэчы, першапачаткова планавалася як рэкрэацыйнае, то бок прызначанае для адпачынку людзей. Цяпер яно прымусова ператварылася ў ачышчальнае прыстасаванне гарадской каналізацыі і паступова заглейваецца. Зараз разглядаецца праект, каб перад вадасховішчам на шляху калектара зрабіць дзве ступені сажалак, дзе вада будзе адстойвацца і нафтапрадуктаў перад тым, як патрапіць у вадасховішча.

Уздоўж самой Свіслачы пад зямлёй пралягае калектар «Цэнтр». Ён даходзіць толькі да парку Горкага, дзе вада з яго трапляе ў раку. Аднак па планах ён павінен быць дабудаваны да Чыжоўскага вадасховішча, а там помпавая станцыя мусіць перапампоўваць сцёкавыя воды з яго на ачыстку ў сажалкі ў абалоні Лошыцы.

Ліўневыя воды з «дражніцкага» і «сляпянскага» калектараў вырашана не ачышчаць асобна, а накіроўваць іх пры дапамозе помпавай станцыі па шляху побытавых і вытворчых сцёкаў на Мінскую станцыю аэрацыі, што ў Шабанах. Аднак паводле цяперашняга стану яна і так перапоўненая і з цяжкасцю паспявае ачышчаць тое, што паступае сюды цяпер. Таму пакуль самае рэальнае выйсце – гэта паціху ставіць на выпусках калектараў самыя прымітыўныя ачышчальныя збудаванні – пескалоўкі, бонавыя агарожы, каб затрымліваць нафтапрадукты, і г.д.

Такі варыянт – самы рэальны зараз і для ўсёй гарадской каналізацыі. Бо вывесці ўсе калектары за межы гораду – справа доўгая і дарагая, і нават пры ідэальных фінансавых умовах на яе, мабыць, і пяці год не хопіць.

Ліўневую ваду, што збіраецца на тэрыторыях сталічных прадпрыемстваў, павінны ачышчаць самі прадпрыемствы. І нормы тут для іх даволі жорсткія: калі іх прытрымлівацца, то дажджавая вада пасля ачысткі становіцца блізкай па якасці да пітной вады. Дасягнуць гэтага можна толькі са складанымі і дарагімі ачышчальнымі збудаваннямі, а іх сабе дазволіць можа не кожнае прадпрыемства. Да таго ж узнікае пытанне – што рабіць з гэтай вадой далей? На буйных прадпрыемствах, такіх, як МАЗ ці МТЗ, яе можна выкарыстоўваць у вытворчым працэсе. Напрыклад, падсілкоўваць водазваротныя сістэмы. А на меншых прадпрыемствах у такой вадзе патрэбы няма. Атрымліваецца, што яны мусяць старанна ачышчаць тую ваду, каб потым усё роўна скінуць яе ў гарадскую каналізацыю, па якой ідзе брудная вада.

Патрабаваць ад прадпрыемстваў падтрымліваць свае ачышчальныя збудаванні ў такім выключным стане і з такімі жорсткімі патрабаваннямі да якасці вады, у прынцыпе, слушна. Але не для ўсіх: таксама не менш слушна было б не патрабаваць ад прадпрыемстваў, у дажджавых водах якіх няма ніякіх таксічных рэчываў, займацца бессэнсоўнай ачысткай гэтых вод да пітнога стану, а проста браць з іх грошы на вырашэнне праблемаў дажджавой каналізацыі гораду.

Даследаванні навукоўцаў па праблеме аздараўлення Свіслачы працягнуцца да канца 2002 году, і толькі пасля апошняга слова спецыялістаў пачнуцца работы па аздараўленні экалагічнага стану ракі. Мінскія гарадскія ўлады вырашылі ў межах гораду ачысціць рэчышча Свіслачы ад глею і смецця. Аднак калі пасля той ачысткі і надалей у яе воды будзе трапляць бруд з гарадскіх вуліц, то ніякага кардынальнага вырашэння цяперашняй экалагічнай сітуацыі гэта не прынясе.

**Алена ЛАБАНАВА**

# Энергетыкі спыняюць прадпрыемствы

З-за ўвядзення рэжыму так званай аварыйнай броні па спажыванні цяпла і электраэнергіі давялося зрабіць вымушаны прыпынак асноўнай вытворчасці Брэсцкага панчошнага камбінату і электрамеханічнага заводу. На прыкладзе гэтых не карлікавых прадпрыемстваў абласнога цэнтру кіраўнікі «Брэстэнерга» далі зразумець астатнім прамыслоўцам, што не будуць цырымоніцца з адключэннямі за неплацяжы. «Чубайсаўскі» радыкалізм мясцовых электрыкаў вымушана прыняць і «вертыкаль» улады, бо рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства (РУП) «Брэстэнерга» прыпыніла пералічваць свае падаткі ў мясцовы бюджэт, справядліва адпісваючы іх на рахункі даўжнікоў.

Як паведаміў намеснік генеральнага дырэктара РУП «Брэстэнерга» Яўген Капскі, эканоміка вобласці ўжо завінавацілася за спажытыя энерганосьбіты 68,6 мільярда рублёў, альбо 40 мільёнаў даляраў ЗША. Доля прамысловасці ў гэтым – 9,5 мільярда рублёў, будаўнічага комплексу – 1,4 млрд., жыллёва-камунальнай гаспадаркі – 6,7 млрд., бюджэтныя арганізацыі – 8,6 млрд., аграпрамысловы комплекс – 36,8 млрд. рублёў.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

# Чынавенства засунула за пояс мафію

Сацыялагічная служба Партыі камуністаў Беларускай апытала ў студзені 4 200 чалавек. Большыня апытаных лічыць, што жыццё няўхільна пагаршаецца па віне беларускіх уладаў. 52% апытаных заявілі, што даход на аднаго працуючага члена сям'і мінулым годам склаў 60 тысяч рублёў і болей, 24% мелі заробак 90 тысячаў і болей, больш за 120 тысячаў мелі толькі 10% рэспандэнтаў.

Фінансавая нявыкрутка сталася прычынай таго, што 49% апытаных у 2001 годзе часта адмаўлялі сабе ў прадуктах харчавання; 61% рэспандэнтаў часта адмаўляў сабе ў самай неабходнай вопратцы; 41% часта адмаўляўся ад лекаў і медыцынскіх паслугаў (рэдка – 32%).

На пытанне «*Калі вы лічыце, што жыццё пагаршаецца, то хто перш за ўсё вінаваты ў пагаршэнні жыцця?*» адказы размеркаваліся наступным чынам: 50% апытаных віну за пагаршэнне эканамічнага дабрабыту ўскладаюць на ўрад, 45% – на прэзідэнта Аляксандра Лукашэнку і 30% – на органы мясцовай улады. Цікава, што чынавенства вінаваціць у эканамічным крызісе 29% апытаных, і толькі 14% рэспандэнтаў назвалі галоўнымі вінаўнікамі эканамічнага крызісу мафіёзныя структуры.

**Рыгор БУЯН**



Руіны казармы ў Бяроза-Картузскім лагеры



Выгляд кляштара картузаў да зруйнавання. Акварэль Н.Орды



Сённяшні выгляд унутранага двара картузскага кляштара

# Супакойлівы подых руінаў

*Горад Бяроза набыў вядомасць дзякуючы кляштару картэзіянцаў, які ў Французскай энцыклапедыі мастацтваў быў адзначаны як архітэктурны шэдэўр, і канцлагеру для палітзняволеных часоў даваеннай Польшчы.*

Сёння тут няма ні таго, ні другога. Ад кляштару, назва якога па 1940 год адлюстроўвалася ў афіцыйнай назве гораду – Бяроза-Картузская, – засталіся руіны. Пра лагер нагадвае памятная стэла, пастаўленая на месцы брамы, а з двух яго мураваных карпусоў у адным зладзілі культурны цэнтр, а другі, без даху і з пустымі вачніцамі вакон, выглядае ахвяраю пажару.

Пра картэзіянскі кляштар напісана шмат у мастацкіх і архітэктурных даведніках, пра лагер абавязкова ўзгадваецца ў школьных падручніках гісторыі як пра месца, дзе цярпелі пакуты заходнебеларускія камуністы. На справе за калючы дрот апроч левых радыкалаў траплялі і дзеячы нацыянальнага руху з Беларусі і Украіны, літоўскія нацдэмы з Віленшчыны і правыя фашыстоўскай арыентацыі з карэнных польскіх паветаў. У гэтых адносінах лагер быў інтэрнацыянальны.

Аднак калі б некалі Бяроза не прытуліла картузаў, не было б тут і канцлагеру, хоць па часе ўзнікнення іх падзяляе трыста гадоў.

Кутні камень кляштару быў закладзены пры Казіміру Сапегу, малодшым сыну вядомага ўкладальніка Трэцяга Статуту ВКЛ канцлера Льва Сапегі. Ён фундаваў на гэты кляштар 10 000 чырвоных залатых, што разам з іншымі ахвяраваннямі на карысць каталіцкай царквы прынесла Сапегам тытул князёў Святой Рымскай Імперыі, нададзены папскім прывілеем. Так што канцлер Леў Сапега яшчэ не быў князем, а ягоныя нашчадкі ўжо менаваліся князямі.

Кляштар узводзілі болей за 40 гадоў – так доўга, бо якраз ішлі войны часоў Патопу (1648 – 1661). Апроч гэтай знешняй перашкоды, даўтабуд меў і тэхнічныя прычыны – кляштар быў самым вялікім на землях тагачаснай Беларусі. Ён і сёння ўражвае сваімі памерамі, хоць ад яго пабудоваў засталася малая частка. Расійскія ўлады пачалі расправу з картузамі за ўдзел Сапегаў і манахаў у паўстанні 1830-1831 гадоў, а касцёл зруйнавалі пасля паўстання 1863 году. Для закрыцця касцёлу чыноўнікі скарысталі методыку, якая пры патрэбе ўжываецца і сёння: камісія агледзела будынак і прыйшла да думкі, што ён небяспечны для вернікаў – бэлькі згнілі, дах працякае, у сценах трэшчыны. Таму 15 трунаў роду Сапегаў, якія былі пакладзены ў сутарэннях на вечны спачын, вынеслі на гарадскія могілкі, медныя лісты даху перадалі ў Гродна для царквы Аляксандра Неўскага, а будынак разабралі на цэглу, з якой збудавалі трохпавярховыя казармы для расійскіх вайскоўцаў.

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да Польшчы гэтыя будынкі заняла школа падхарунжых запасу, але ў 1934 годзе афіцэры мусілі саступіць месца палітвязням. Прычынай стала забойства сябрам Украінскай нацыянальнай арганізацыі (*ОУН*) міністра ўнутраных справаў Польшчы. Польскі ўрад скарыстаў драму для маштабнай «пацыфікацыі» («уціхамірвання»). Прыкладам, у Брэсцкім павеце былі «пацыфікаваныя» 23 вёскі, не надта задаволеныя сваім жыццём. У 19 турмах Заходняй Беларусі колькасць зняволеных вырасла амаль у чатыры разы – з 1 150 вязняў да 4 170. Апроч ушчыльнення турмаў тагачасны прэзідэнт Польшчы І.Масціцкі дэкрэтаваў стварэнне «Месца адасаблення ў Бярозе-Картузскай». Палескія балаты ўспрымаліся такім жа зручным рэгіёнам для высылкі, як ў савецкай Расіі – Сібір. З нападам немцаў на Польшчу ў лагер пачалі звозіць інтэрнаваных беларусаў, украінцаў, летувісаў – забяспечваць «надзейнасць тылу». Вось як апісаў потым сустрэчу з лагерам беларускі літаратар з Вільні Уладзіслаў Паўлюкоўскі, вывезены ў Бярозу 10 верасня:

«З варотаў выйшлі іншыя паліцыянты з гумовымі палкамі... Жанчынам загадалі стаць асобна і пералічылі іх. З другіх варотаў выйшлі паліцыянткі з гумовымі палкамі і павялі жанчын за тыя вароты. Пералічылі і нас, як нейкія мёртвыя рэчы, без назоваў, бо нават не спраўджвалі па спісу. Загадалі рухацца ў першыя вароты, скамандаваўшы: «Бягом!» Бягу паміж паліцыянтаў, стаяўшых у два рады і біўшых тых, што беглі перада мною... А паліцыянты білі гумовымі палкамі, прыкладамі стрэльбаў, каламі, палеччамі, хто што меў у руках... Білі ад усяго сэрца й душы, раз'юшаныя жорсткаю злосцю, бо ў некаторых ламаліся ў руках палкі й палеччы... Катавалі мяне на Лукішках у 1926 і ў 1927 гг. гэтаксама азвярэлыя людзі, але тое катаванне не зраўнялася б і з трацінаю цяперашняга. Ад 1 верасня да якога 10-га ў Бярозу было сагнана тысячы людзей. Найболей было ўкраінцаў і беларусаў. Пазней мы даведаліся, што ўсіх інтэрнаваных у Бярозе было да 10 000 чалавек...»

Лагерны вопыт гэтых людзей быў кароткі, бо 23 верасня іх вызвалілі, і польская ахова лагера перад надыходам Чырвонай Арміі іх не расстраляла, як гэта рабілі нкусаўцы ў савецкіх лагерах перад прыходам немцаў, прыкладам, у Чэрвені ці Беразвеччы. Бяроза-Картузская не была лагерам смерці, сюды «на 10 год без права перапіскі» не змяшчалі. Безумоўна, людзі ў кожным лагеры пакутавалі, і нельга сказаць, што Бярозаўскі лагер добры – аднак масавых расстрэлаў вязняў тут не было. Лагер нават не адзначаны пахаваннямі. Тут моцна скалечаных выпраўлялі паміраць дамоў, а знясіленых адпраўлялі ў шпіталь у Кобрын. Дый тэрмін зняволення складаў паводле дэкрэту тры месяцы. Праўда, для непаслухмяных ён мог быць працягнуты яшчэ на адзін квартал.



Памятная стэла на месцы былога «месца адасаблення» ў Бярозе



Некалі тут жылі манахі-самотнікі



Некалі тут цярпелі пакуты палітвязні

У кастрычніку 1939-га за калючы дрот лагера патрапілі палонныя польскага войска, спаміж якіх афіцэрскі склад вывозілі ў Расію. Шмат хто з гэтых афіцэраў страціў жыццё пад кулямі нкусаўцаў у Катыні. Звозілі ў Бярозу таксама «памешчыкаў і фабрыкантаў», потым іх адпраўлялі ў сапраўдныя сталінскія лагеры і не на тры месяцы, а на дзесяцігоддзі ці навечна. Так што ёсць усё ж розніца паміж «месцам адасаблення» і савецкай «зонай». Усё ж, седзячы ў Гродзенскай турме, Браніслаў Тарашкевіч пераклаў «Пана Тадэвуша», а ў Савецкай Беларусі быў расстраляны, як дзесяткі тысяч іншых невінаватых ва ўрочышчы Курапаты.

Як ні дзіўна, але месцы, дзе бальшавіцкая ўлада знявольвала савецкіх людзей, нідзе на Беларусі стэламі не пазначаны. Ніводная турма не мае адпаведнай памятнай шыльды, нідзе ўлада не паставіла крыж на месцах расстрэлаў. Пра свае грахі дзяржава помніць не хоча.

Былыя бярозаўскія лагерныя казармы будуць з цягам часу адноўлены для цывільнага выкарыстання. Што да кляштара, дык цяжка ўявіць, хто мог бы прыняць на сябе выдаткі па яго рэстаўрацыі. Няма фундатараў кшталту Сапегі, а каталіцкая царква пакуль не выступіла з такой прапановай. Няма гарантыі, што з адноўленага кляштару зноў не здзяруць меднае пакрыццё для чарговай царквы Аляксандра Неўскага.

Раней, калі я бачыў зруйнаваны замак, палац, касцёл ці сядзібу – а гэта ў нас у кожным горадзе і мястэчку, мне сэрца шчаміла, што гіне плён працы продкаў. А цяпер думаю, што руіны больш красамоўныя, чым тая копія даўніны, якую можа даць рэканструкцыя. Бо руіны належаць усім, і каля лагернай казармы ці картузскага кляштара можна меркаваць, што вынішчэнне жыцця, тая помста і злосць, што тут лютавалі, не паўторацца, ва ўсялякім разе хоць на гэтым месцы.

**Юры СУРЫН,**
**Уладзімір ШЛАПАК (фота)**



Другі лагерны блок, прыстасаваны пад культурны цэнтр

# Румынія: 10 гадоў кульгавых рэформаў

*За апошнія 10 гадоў Румынія пазычыла за мяжою звыш 16 мільярдаў даляраў, з якіх выплаціла каля паловы. Астатнія 8 мільярдаў доўгу і рэзкае скарачэнне ВУП за гэты перыяд – беспрэцэдэнтны, калі не абсурдны, эканамічны вынік так званай рэформы.*

У перыяд 1989-1998 гадоў беднасць у Румыніі вырасла ў 5 разоў, і цяпер звыш 7 мільёнаў чалавек жывуць менш чым на адзін даляр у дзень. Месца колішняй усеагульнай галечы занялі сацыяльныя кантрасты. Разам з тым, паколькі розніца ў прыбытках тлумачыцца пазаэканамічнымі прычынамі (напрыклад, манапольным становішчам прадпрыемстваў, ухіленнем ад падаткаў, карупцыяй), дзейсных стымулаў да працы не ўзнікла.

Не дзіўна, што румынская эканоміка, як і да 1989 году, застаецца неэфектыўнай і неканкурэнтаздольнай. Каб паслабіць напружанне, быў адкрыты клапан цэнаў, бесперапынны рост якіх дае той жа эфект, што і адсутнасць тавараў у крамах да 1989 году. Другі клапан – беспрацоўе. Сёння яно ў Румыніі складае каля 8%, аднак пры правядзенні рэальнай эканамічнай палітыкі яно дасягнула б 30%. Крыніца беспрацоўя у Румыніі – ліквідацыя прадпрыемстваў. Касцяк прамысловасці складаюць галіны, якія гінуць гістарычна – буйныя спажыўцы энергіі, створаныя некалі як прадпрыемствы-гіганты. Румынія пакутуе ад лішкаў вытворчых магутнасцяў пры недахопе ўнутраных рэсурсаў – нафты, газу, вугалю, каляровых металаў.

Гэтыя стратныя прадпрыемствы ўскосна субсідуюцца дзяржавай – фактычна ім дазваляецца не плаціць падаткаў у бюджэт і не вяртаць крэдытаў, што вядзе да абвастрэння крызісу неплацяжоў. «Цвёрдае ядро» румынскай эканомікі – катастрафічная спадчына планавага рэжыму. Гэта буйныя дзяржаўныя манаполіі і прыкладна 100 прадпрыемстваў, на якія прыпадае каля 80% доўгу дзяржаве. Даўгі ў румынскай эканоміцы цяперашнім часам дасягаюць 40% ВУП. Між тым у Румыніі няма і не будзе сродкаў для панаўлення тэхналагічнай базы ўсёй прамысловасці. Таму адзінае рашэнне – ліквідацыя стратных прадпрыемстваў, каб выратаваць перспектыўныя. А для правядзення структурных зменаў у румынскай эканоміцы патрабуюцца непасрэдныя замежныя інвестыцыі, вышэйшыя за цяперашнія на 5 мільярдаў даляраў.

Запозненая прыватызацыя таксама нядатная забяспечыць рэструктурызацыю прадпрыемстваў і прыток інвестыцый. У сярэднім на румынскіх прамысловых прадпрыемствах на адну частку актываў прыпадае дзве часткі доўгу, які ўтвараўся праз крызіс неплацяжоў. У выніку прадаць гэтыя прадпрыемствы практычна немагчыма – ніхто не хоча купляць даўгі. Нават праз 10 гадоў пасля краху «камунізму» ў Румыніі, асабліва ў прамысловасці, пераважае дзяржаўная ўласнасць, доля якой складае каля 70%. Больш за тое, у краіне захоўваецца сістэма манаполій, якая адсоўвае перспектыву рэальнай канкурэнцыі. З самага пачатку прыкладна палову ўсёй уласнасці заканадаўчым чынам вывелі з рэжыму прыватызацыі і пакінулі ў дзяржаўнай уласнасці.

Поруч са страшэнным недахопам рэсурсаў перад Румыніяй стаяць надзвычай складаныя і нетыповыя праблемы. Эканамічна слаба развітая, Румынія знаходзіцца ў дэмаграфічнай сітуацыі, характэрнай для развітых краінаў. У краіне расце сталае насельніцтва, а колькасць пенсіянераў ужо перавышае колькасць людзей, занятых у эканоміцы. На 4,3 мільёна працоўных румынаў у краіне прыпадае 6,2 мільёна пенсіянераў. Іншымі словамі, коштам адной зарплаты выплачваюцца паўтары пенсіі. Апроч таго, 30% занятых румынаў працуюць у сельскай гаспадарцы, тым часам як у развітых краінах гэты паказчык складае толькі 10%.

Працэс рэформаў у Румыніі характарызуецца шэрагам «анамаліяў», якія тлумачацца асаблівасцямі як нацыянальна-эканамічнай сітуацыі краіны, так, мабыць, і нацыянальнай псіхалогіі. Нягледзячы на скарачэнне попыту, у Румыніі растуць цэны, на стратных прадпрыемствах плацяць добрыя заробкі, сродкі для падтрымкі фактычна збанкрутаваных кампаній выдзяляюць з бюджэту. Цану рэформы ў Румыніі аплачвае прыватны, а не дзяржаўны сектар. Пралікі ўрадавай палітыкі аплачваюць падаткаплатнікі. Такая сітуацыя ў эканамістаў называецца «прыватызацыяй даходаў і нацыяналізацыяй стратаў».

І праз 10 гадоў румынская эканоміка ў сваёй аснове засталася ранейшай. Гэта не рынкавая эканоміка, а своеасаблівы гібрыд з рынку, які застаецца яшчэ ў зародкавай форме, і дзяржаўнай эканомікі, якая паміраe, але яшчэ ў сіле, якую падтрымліваюць палітычна (бо з яе крадуць!) і якая фактычна вызначае правілы гульні. Рэформа ў Румыніі засталася з дзвярэй прадпрыемстваў, кажуць эканамісты. Таму перад урадам краіны да гэтага часу стаіць дылема: альбо рэформа пратачыцца ў рэальную эканоміку, альбо ў бязлітасным міжнародным эканамічным спаборніцтве краіну адціснуць на перыферыю.

**Мікалай МАРОЗАЎ**



# Што новага ў новай усеафганскай арміі?

**С.Фрэдэрык СТАР,** старшыня Інстытуту Цэнтральнай Азіі і Каўказу пры універсітэце Джона Хопкінса
**Марын СТРМЕКІ,** віцэ-прэзідэнт Фонду Сміта Рычардсана

*Першыя рэформы ў арміі пагражаюць паглыбіць глыбокі раскол у афганскім грамадстве. Міністр абароны ў часовай адміністрацыі Хаміда Карзаі ў Кабуле ўжо абвесціў імёны людзей, якія ўвайшлі ў склад вышэйшага кіраўніцтва новай арміі. Сам міністр – генерал Махамед Фахім, таджык па нацыянальнасці з Панджшырскага раёну на поўначы Афганістану – прыняў тры месяцы таму камандаванне сіламі Паўночнага Альянсу.*

У Афганістане самая буйная этнічная група – пуштуны, якія складаюць дзве пятыя ўсяго насельніцтва, тады як на хазарэйцаў і таджыкаў прыпадае па адной пятай насельніцтва краіны. З 38 афіцэраў, узведзеных Фахімам у ранг генералаў, 37 таджыкі і 1 узбек. Калі прадстаўнікоў 15-17-мільённага пуштунскага насельніцтва паклічуць у армію, ім прыйдзецца служыць пад кіраўніцтвам камандавання, якое складаецца амаль выключна з таджыкаў. А пуштунская мова адрозніваецца ад таджыкскай, як іспанская ад англійскай.

Геаграфічны профіль новага ваеннага кіраўніцтва настолькі ж вузкі, як і ягоны этнічны склад: 35 з 38 старшых афіцэраў паходзяць з адной невялікай мясцовасці на поўнач ад Кабулу, куды ўваходзяць правінцыя Парван (дзе размешчаны аэрапорт Баграм) і суседняя Панджшырская даліна. Іншымі словамі, патэнцыйных лідэраў, якія прадстаўляюць 27 з 29 правінцый Афганістану, не пусцілі ў склад новай ваеннай эліты краіны.

18 з 38 чальцоў армейскага начальства належаць да партыі «Джаміят-э-Ісламі» – ісламскай групоўкі, якую доўга ачольваў былы прафесар тэалогіі Бурханудзін Рабані. Гэтая партыя ў сярэдзіне 90-х гадоў кароткі час кіравала Кабулам, спарадзіўшы такое кровапраліцце і хаос, што большасць афганцаў ухвалілі прыход талібаў.

Другое месца па колькасці ў камандаванні займаюць камуністы. 16 з 38 чалавек ужо даўно належаць да партыі, чые дзеянні ў канцы 1970-х гадоў прывялі да савецкага ўварвання, якое каштавала жыццяў 2,5 мільёнам афганцаў. Большасць афганцаў сёння ставіцца да камуністаў з гэткаю ж сімпатыяй, з якой палякі ставіліся б да гітлераўскіх нацыянал-сацыялістаў.

Шасцёра генералаў Фахіма былі раней прафесійнымі партыйнымі работнікамі і пасля ўварвання Савецкай Арміі працягвалі сваю партыйную дзейнасць. Уявіце, як бы адрэагавалі французы, калі б раптам высветлілася, што чацвёртая частка пасляваеннага афіцэрскага корпусу Францыі была за часоў акупацыі на баку вермахту.

Да таго ж толькі 10 з 38 прызначаных Фахімам военачальнікаў маюць прафесійны афіцэрскі досвед. Яшчэ адзін быў пілотам. А астатнія 24 – цывільныя асобы.

Што ж гэта значыць з пункту гледжання штодзённасці? Гэта значыць, што, калі камандуючыя міжнароднымі міратворчымі сіламі ў Афганістане, а таксама амерыканскія вайскоўцы і дыпламатычныя прадстаўнікі сустрэнуцца з намеснікам міністра абароны Афганістану, перад імі стане Абдул Рашыд Дустум – вядомы сваёй жорсткасцю і карумпаванасцю военачальнік, камуніст, які дагэтуль падтрымлівае сувязь са старымі сябрамі з Савецкай Арміі, якія працуюць у Маскве. Гэта азначае, што галава ўзброеных сілаў Афганістану, а таксама кіраўнік апаратыўнага аддзелу і армейскай разведкі – таксама камуністы, людзі, чые прынцыпы і погляды застаюцца нявызначанымі і якія не маюць даверу большасці афганцаў.

Няўжо прысутнасць у Кабуле такой падазронай групоўкі можа выклікаць давер у трох чвэртак насельніцтва Афганістану, не прадстаўленых у вышэйшым армейскім кіраўніцтве? Або гэты спіс – вынік такога падыходу да праўлення, пры якім «пераможца атрымлівае ўсё», падыходу, які можа прывесці ў будучыні да новага кровапраліцця з боку тых, чые інтарэсы цынічна пагарджаліся?

**© Project Syndicate, люты 2002**

# Насельніцтва арабскіх краін дасягнула 279 млн. чалавек

Сукупнае насельніцтва арабскіх краін на пачатак XXI ст. дасягнула 279 млн. чалавек, 43% з якіх маладзейшыя за 15 гадоў. Пра гэта гаворыцца ў супольным дакладзе Лігі арабскіх дзяржаваў, Арабскага фонду эканамічнага развіцця і Арганізацыі арабскіх краін – экспарцёраў нафты (*ОАРЕС*).

Гадавы прырост насельніцтва роўны 2,3%, гэта адзін з найвышэйшых паказчыкаў у свеце. Пры гэтым, падкрэсліваецца ў дакуменце, агульны ВВП дзяржаваў арабскага рэгіёну склаў 709 млрд. даляраў. Доля здабыўной прамысловасці ў яго фармаванні вырасла з 19% у 1999 годзе да 26,3% у 2000 годзе. Чвэртка ўсіх арабаў дагэтуль непісьменная, хоць 53% з іх жыве ў гарадах. Працаздольнага насельніцтва больш за 180 млн. чалавек, 20% з іх – беспрацоўныя.

Узровень даходаў на душу насельніцтва рэзка вагаецца ад краіны да краіны, але ў сярэднім не перавышае 500 даляраў у год.

**Рафаэль БІКБАЕЎ**

# Лекі са складнікам «кава» забаронены ў Францыі

Лекавыя прэпараты, што ўтрымліваюць распаўсюджаную ў фармацэўтыцы расліну «кава» (не блытаць з той кавай, якую мы п'ём), забаранілі ў Францыі. Прычына абвешчанай забароны – выяўленыя ў суседніх Нямеччыне і Швейцарыі выпадкі моцнага паражэння печані, выкліканага ўздзеяннем расліны.

Адзін з адзначаных дактарамі выпадкаў скончыўся нават смерцю чалавека, а чатыром хворым давялося перасадзіць печань. Шкоднае ўздзеянне прэпаратаў, як мяркуюць спецыялісты, можа праяўляцца нават праз некалькі месяцаў пасля курсу лячэння. Прычым хвароба печані можа развіцца імгненна. Паражэнне гэтага жыццёва важнага органу можа ўзнікаць і ў тых выпадках, калі прэпараты з «кавай» ужываліся нерэгулярна.

Звычайна «кава» ўваходзіць у склад лекаў, што прымяняюць пры лячэнні ганарэі і цыстыту. «Кава», ці «кава-кава», – куст сям'і перцавых, расце на выспах Палінезіі і Новай Гвінеі. Часам яго называюць коранем хмельнага перцу, бо мясцовыя жыхары гатуюць з «кавы» моцны п'янкі напой.

Цяпер медыцынскія ўлады забаранілі ў Францыі любое выкарыстанне «кавы» ў прэпаратах – за выключэннем звышмалых дозаў у некаторых гамеапатычных прэпаратах. Катэгарычна забаронена ўжыванне «кавы» і ў харчовых дадатках. На шчасце, на тэрыторыі краіны выпадкаў шкоднага ўздзеяння прэпаратаў з гэтай расліны на людзей пакуль не адзначана. Лекі з «кавай» даўно і шырока распаўсюджаныя ў Еўропе і ЗША – яны нават прадаюцца ў супермаркетах, крамах дыетычнага харчавання, замовіць іх да гэтай пары можна праз інтэрнэт.

**Міхаіл ЦІМАФЕЕЎ**

# Гандляр смерцю



Затрыманы ў Бельгіі нехта Санжыван Рупра даў паказанні бельгійскім і амерыканскім уладам аб пастаўках зброі баевікам «Аль-Каіды», якія здзяйсняў савецкі афіцэр у адстаўцы Віктар Бут. Рупра заявіў, што дакладна ведае пра шмат якія здзелкі паміж людзьмі бін Ладэна і Віктарам Бутам і можа расказаць пра тое, якім чынам ажыццяўляліся пастаўкі зброі ў Афганістан.

ААН раней абвінавачвала Віктара Анатолевіча Бута ў стварэнні грандыёзнай сеткі па продажы зброі ў абход міжнародных санкцыяў. Бута называюць таксама былым афіцэрам КДБ. Гэты чалавек выкарыстоўвае прынамсі 7 пашпартоў і прозвішчаў (Віктар Бутаў, Вадзім Амінаў ды інш.). У дакладзе ААН, апублікаваным у снежні 2000 году, сцвярджалася, што Бут правёў не менш за 38 здзелак па пастаўцы зброі (у абход санкцыяў ААН) паўднёваафрыканскім паўстанцам, у тым ліку і групоўцы *UNITA*. Толькі апошняя пастаўка ваеннай тэхнікі з балгарскіх заводаў баевікам *UNITA* ацэньваецца ў 15 мільёнаў даляраў. За гэтыя грошы паўстанцы атрымалі сродкі супрацьпаветранай абароны, 122-мм гарматы, ПТУРСы, ЗРК і боепрыпасы да мінамётаў (каля 20 000 мінаў).

Сам Бут тады ўсе гэтыя абвінавачанні адмаўляў. Па яго словах, з'яўленне такога кампрамату – справа рук трэцяга боку, якому выгадна выцесніць з паўднёваафрыканскага рынку ягоную авіякампанію *Air Cess*. Па ягоных словах, кампанія «займаецца расійскай» тэхнікай, працуе ў Афрыцы, але ніколі не мела дачынення да зброі.

Лі Валоскі, чыноўнік ААН, які займаўся справаю Бута, заявіў, што арышт Рупры – «вельмі значны зрух» у расследаванні сувязяў Бута з тэрарыстычнымі арганізацыямі. Валоскі назваў структуру, на чале якой стаіць былы савецкі афіцэр, «найбуйнейшай у свеце арганізацыяй па пастаўках зброі». Другія прадстаўнікі ААН мяркуюць, што Рупра – адна з ключавых пастаццяў у фірме «гандляра смерцю». Кенійца затрымалі ў Бельгіі 8 лютага па падазрэнні ў адмыванні грошай, зробленых на продажы кантрабандный зброі.

Як вынікае з паказанняў Рупры, Бут меў дзелавыя сувязі з прадстаўнікамі «Аль-Каіды» на працягу двух гадоў. Зброя ў Афганістан пастаўлялася самалётамі афганскай нацыянальнай авіякампаніі *Ariana Airways*.

Акрамя таго, згодна з паказаннямі Рупры, Бут займаўся незаконным гандлем алмазамі ў Афрыцы. Аднак аб прамых сувязях Бута і бін Ладэна ў алмазным бізнесе Рупра не казаў. Раней паведамлялася, што галава «Аль-Каіды» зарабіў мільёны даляраў на здабычы алмазаў у раёнах Сьера-Леоне, якія знаходзіцца пад кантролем паўстанцкіх груповак.

Як піша газета са спасылкаю на бельгійскія крыніцы, блізкія да расследавання, ёсць прычыны меркаваць, што арышт Бута – «справа некалькіх дзён». Аднак яго месцазнаходжанне цяпер не вядома. Паведамляюць, што пры пераездзе з краіны ў краіну ён карыстаецца грузавымі самалётамі. Па некаторых звестках, Бут можа знаходзіцца ў Расіі або ў ААЭ, дзе месціцца офіс ягонай кампаніі.

# Міністэрства страху

*Рызыкоўна быць пабожным мусульманінам ува Узбекістане. Службы бяспекі расправіліся з падазронымі ў падтрымцы мусульманскіх баевікоў так радыкальна, што пад падазрэннем апынуліся нават тыя, хто адпускае бароды або належыць да рэлігійных сем'яў.*



Крэпасць Арк у Бухары стаіць насуперак усіх бураў гісторыі з XVI ст. Падобна да яе трывалыя і жыхары Хівы, якія збіраюцца на бяседу пад адкрытым небам. Урад ужывае да радыкальнага ісламу палітыку абложанай крэпасці.

Арыштаваны тысячы людзей. Справаздача Дзярждэпартаменту ЗША аб захаванні правоў чалавека падае доўгі шэраг справаў, у ходзе якіх падазраваных білі ў вязніцах, прымушалі падпісваць фальшывыя прызнанні або даводзілі да смерці ў турме.

Узбекскі ўрад абвінавачвае мусульманскіх баевікоў у шэрагу выбухаў у Ташкенце, сталіцы краіны, у 1999 годзе – гэта мелася быць спроба забойства прэзідэнта Іслама Карымава, – і ў нападах на Ферганскую даліну, сельскагаспадарчы абшар краіны. Найбольшая з радыкальных групаў, якая налічвае некалькі тысяч баевікоў, называлася Ісламскай партыяй Туркестану: яна скарыстала назву, якая некалі стасавалася да значнага кавалку Сярэдняй Азіі.

Узбекскі ўрад тлумачыць, што суровае стаўленне да людзей, якія выглядаюць шчырымі мусульманамі, – гэта рэакцыя на напады і тэракты. Крытыкі кажуць, што шмат хто з арыштаваных – нявінныя людзі, якія папросту практыкавалі сваю веру, і што некаторыя з іх – палітычныя праціўнікі прэзідэнта Карымава. Узбекі, як і іх суседзі казахі, народ цюркскі, які змяшаўся з мангольскімі нападнікамі Чынгіз-хана. Яны здолелі захаваць сваю культуру лепш за казахаў і ганарацца сваімі слаўнымі гарадамі, якія квітнелі з X да XV ст., – Самаркандам, Бухарой і Хівой. Жорсткі Цімур – народны герой, якім захапляюцца як захопнікам, які панаваў ад Персіі да Індыі.

Сельская гаспадарка дае працу найбольшай прафесійнай групе Узбекістану. Бавоўна застаецца царыцаю палёў, як і за савецкім часам, калі арашальныя каналы перасякалі бясплодны пейзаж, а грунтавыя воды атручваліся пестыцыдамі і ўгнаеннямі. Калгасы не былі ліквідаваныя, і ўрад надалей дыктуе сялянам, што ім трэба гадаваць. Такі лад узбагачае дзяржаву за кошт сялян, бо сабранае павінна быць прададзена дзяржаве за драбніцу ад сапраўднае вартасці. Амаль палова з 25 мільёнаў жыхароў Узбекістану не споўнілася 18 гадоў. Амаль усе маюць сярэднюю адукацыю (трэба аддаць належнае савецкаму ладу, дзе яна была абавязковая). Аднак працы мала, і таму ваяўнічы іслам няўхільна прыцягвае беспрацоўных. Яны выязджаюць у Пакістан, каб навучацца там рэлігіі (дзе яе вывучаў шмат хто з лідэраў талібаў) і ад навукі пра Каран пераходзяць да навукі пра «калашнікава».

**National Geographic**

**Насельніцтва**
25,2 мільёна

**Сталіца**
Ташкент

**Мовы**
узбекская 74%
расійская 14%
таджыкская 4%
іншыя 8%

**Нацыянальныя групы**
узбекі 80%
расійцы 6%
таджыкі 5%
казахі 3%
іншыя 6%

**Рэлігіі**
іслам 88%
праваслаўе 9%
іншыя 3%

**Сярэдняя працягласць жыцця**
63,8 год

**Дзіцячая смяротнасць**
72 на 1000 народзін

**Плошча**
447 400 кв. км

ТЭНДЭНЦЫІ

# Заможныя палякі наймаюць «паветраных рамізнікаў»

Заможныя палякі ўсё часцей карыстаюцца невядомым дагэтуль у Польшчы відам таксоўкі – паветраным. Завоблачныя рамізнікі, якія працуюць на верталётах і невялікіх самалётах, самі называюць свой крылаты від сервісу «аэратаксоўка». Цяперашнім часам у Польшчы зарэгістраваліся больш за сто прыватных фірмаў, што маюць ліцэнзію на пасажырскія авіяперавозкі, але толькі восем з іх у прамым сэнсе «аэратаксоўкі», бо займаюцца толькі развозам пасажыраў па замоўленых маршрутах.

Перавага «паветраных вазніцаў» відавочная. «Аэратаксоўка» можа даставіць кліента з Варшавы (дзе, па статыстыцы, жыве найбольш іхных пасажыраў) на гарналыжныя курорты паўднёвай Польшчы ўсяго за паўтары гадзіны, без усялякіх пробак. Тая ж паездка на цягніку патрабуе ад кліента мінімум чатыры з паловай гадзіны, а падарожжа на аўтамабілі і яшчэ болей, бо перад выхаднымі аўтамагістралі Польшчы, як і краінаў Заходняй Еўропы, часцяком паралізуюцца шматкіламетровымі заторамі.

Таму заможныя палякі, абмежаваныя толькі ў часе, пры паездках на гарналыжныя курорты разлічваюць не на свае дарагія аўто, а на крылы ці шрубы «аэратаксовак». Новы від сервісу дае магчымасць без праблем дабрацца да жаданых гор, уволю накатацца і вечарам у нядзелю зноўку быць дома, каб у панядзелак з новымі сіламі паглыбіцца ў свой прыбытковы бізнес. Да паслугаў «аэратаксовак» часта звяртаюцца людзі, якім наўпрост да мэты ляцець не так ужо і далёка, але аўтамабільныя дарогі ідуць выключна ў аб'езд, дый ехаць даводзіцца з мноствам перасадак – з аўтобуса на цягнік ці наадварот.

У адрозненне ад чатырохколавых таксістаў, якія бяруць плату ў залежнасці ад кіламетражу, нябесныя возчыкі выстаўляюць рахунак за час, праведзены ў палёце. Цэны прэйскуранту – самыя розныя. Гадзіна эксплуатацыі камфартабельнага шведскага верталёту «Энстрэм» каштуе 1 200 злотых (каля 300 даляраў), а невялікага двухмясцовага самалёта польскай вытворчасці – усяго 300 злотых.

Новы від бізнесу сярод польскіх авіятараў лічыцца даволі прыбытковым – усе першасныя выдаткі звычайна акупляюцца ўжо за першыя паўгода. На сённяшні дзень паветраны таксапарк Польшчы налічвае 39 самалётаў і 5 верталётаў. У Варшаве працуе своеасаблівая дыспетчарская – фірма «Чэпмен фрыбарн», дзе кліенту парэкамендуюць і фірму, і тып самалёта, паінфармуюць пра тарыфы і нават пра паслугоўны спіс абранага пілота.

Праца «аэратаксовак» выгадная і аэрапортам, якім таксісты плацяць за абслугоўванне. У Познані, да прыкладу, дзесяць працэнтаў прыбытку мясцовага аэрапорту даюць паветраныя рамізнікі. Прыкладна такая самая сітуацыя склалася і ў іншых польскіх гарадах, за выключэннем Варшавы, Гданьску і Кракава.

Найлепшым годам для паветраных таксістаў Польшчы быў 2000-ы, калі колькасць кліентаў вырасла адразу на 50%. Але пасля тэрактаў у ЗША 11 верасня мінулага году ў працы малой авіяцыі пачаўся абвал, і толькі цяпер справы паціху пайшлі ўгору.

**Аляксей КАРЦАЎ**

# Краіна дэспата

*Туркменістан, дзяржава, якая мае вялізныя запасы нафты і газу, за 10 гадоў ад здабыцця незалежнасці не здолела выбрацца з гаспадарчае багны.*

Пажыццёвы прэзідэнт Сапармурад Ніязаў перад распадам СССР стаяў на чале Камуністычнай партыі Туркменістану. Сёння яна называецца Дэмакратычнай партыяй і застаецца адзінай легальнай. Арышты і пераследаванні перакрэслілі планы апанентаў, і тыя ўжо не могуць прэтэндаваць на дзяржаўныя пасады. Прэса цэнзуруецца, а адзіны правайдэр інтэрнэту – дзяржаўны «Туркмен Тэлеком», што дазваляе ўраду праглядаць электронную пошту.

У выбарах 1992 году, першых пасля здабыцця незалежнасці, Ніязаў не меў праціўнікаў. Пазней Маджліс, ягоны парламент, які зацвярджае ўсё, што яму прапануюць, пастанавіў, што Ніязаў можа займаць сваю пасаду бестэрмінова. У ніводнай з былых савецкіх рэспублік няма мацнейшага культу ўладара. Прэзідэнт, які любіць звацца Туркменбашы – «правадыром туркменаў», – змясціў свой партрэт паўсюль: ад грошай да тутэйшай гарэлкі.

Галоўны аэрапорт носіць ягонае імя, таксама як і горад над Каспійскім морам. У Ашхабадзе, сталіцы краіны, ягоная пазалочаная статуя абарачаецца на вастрыі шпілю, за 24 гадзіны робячы 360 градусаў. На світанку рукі прэзідэнта выцягваюцца на паўднёвы ўсход, у бок Афганістану. Апоўдні статуя паварочваецца ў бок Ірану, а калі надыходзіць ноч – пазірае на поўнач, дзе ляжыць Казахстан.

Туркменбашы вядзе сваю краіну нейтральным курсам, і, наколькі вядома, ніякія партызаны ні талібскага, ні якога іншага паходжання не ўмешваліся ў ягоныя справы. Туркменістан захоўвае прыязныя стасункі з суседзямі, разлічваючы на продаж падземнага газу (вялізныя запасы якога – пятыя паводле велічыні ў свеце), а таксама нафты. Іран атрымлівае туркменскі газ з 1998 году, невялікая яго колькасць трапляе таксама праз расійскія трубаправоды ува Украіну і ў іншыя постсавецкія дзяржавы. Планы пабудовы газаправоду праз Афганістан у Пакістан, які мог бы прынесці вялізную карысць як гэтым краінам, так і Туркменістану, пацярпелі фіяска з прычыны нясканчонных забурэнняў у Афганістане.

Экспарт энергіі прыносіць штогод каля 600 млн. даляраў, нашмат менш, чым спадзяваўся прэзідэнт, абяцаючы зрабіць з Туркменістану «Кувейт Сярэдняй Азіі» з дармовым хлебам і «Мерседэсам» для кожнай сям'і.

Нястача грошай не ўстрымала, аднак, Туркменбашы ад распачацця грунтоўнай перабудовы Ашхабаду. У цэнтры гораду разбурылі дамы, каб расчысціць месца для яго вялізнага мармуровага палацу. Пры такіх экстравагантных выдатках замежныя даўгі дайшлі да 2,3 млрд. даляраў.

Тым часам сярэдні працаўнік штомесяц прыносіць дадому зарплату, роўную ў пераліку прыблізна 30 даларам.



Ці гадуючы авечкі, ці ўрабляючы памідорныя плантацыі, вяскоўцы стараюцца пражыць з зямлі, якую на 4/5 займае пустыня. Багатыя радовішчы нафты і газу могуць некалі прынесці ім дабрабыт.

За савецкім часам Масква загадала, каб туркмены, падобна як іх суседзі узбекі і таджыкі, аселі на зямлі і гадавалі бавоўну. Ваду з Амудар'і ды іншых рэк Туркменскай рэспублікі перапраўлялі каналамі на вялізныя абшары пустыні Каракумы. Наступствы былі страшныя. Маляпрадукцыйныя арашальныя сістэмы, а асабліва выцечкі з каналаў, прывялі да ўзнікнення звыш 800 тыс. гектараў саланчакоў.

**National Geographic**

**Насельніцтва**
4,6 мільёна

**Сталіца**
Ашхабад

**Мовы**
туркменская 72%
расійская 12%
узбекская 9%
іншыя 7%

**Нацыянальныя групы**
туркмены 77%
узбекі 9%
расіяне 7%
казахі 2%
іншыя 5%

**Рэлігіі**
іслам 89%
праваслаўе 9%
іншыя 2%

**Сярэдняя працягласць жыцця**
61 год

# Немцы просяць прымірыцца

Арганізацыя армейскіх рэзервістаў бундэсверу «Кіфхойзэр» з нямецкага гораду Равенсбург, якая яшчэ ў 1991 годзе прыняла ў госці ветэранаў з гораду-пабрацiма Брэсту, упершыню зараз запрашае разам з імі і вайскоўцаў 50-й механізаванай брыгады. Салдаты цешацца ад магчымасці цікавай замежнай вандроўкі, але трэба дачакацца яшчэ згоды на гэта ад Міністэрства абароны. Асобныя адстаўнікі з саюзу афіцэраў 50-й брыгады супрацьвяцца таму, што кантакты маладых ваеннаслужачых могуць паскорыць ратыфікацыю падпісанага ў 1996 годзе пагаднення Беларусі і Германіі аб доглядзе за вайсковымі пахаваннямі.

Акрамя брэсцкіх ветэранаў Равенсбург наведваюць юрысты, прафсаюзныя актывісты, ансамбль «Брэстаўчанка», іншыя калектывы мастацкай самадзейнасці. У Брэсце пабывала група былых салдатаў вермахту, хто раней ваяваў у Беларусі, Расіі ці на Украіне. Кожны дзень яны пачыналі з ускладання вянкоў у мемарыяле «Брэсцкая крэпасць-герой». Пры ўдзеле нямецкіх ветэранаў музей крэпасці атрымаў з Германіі паштовыя лісты, дзённікі, успаміны і фотадакументы салдатаў, якія ўвайшлі ў крэпасць у чэрвені 1941 году. Гэтыя праўдзівыя прызнанні гераізму і мужнасці байцоў Чырвонай Арміі склалі аснову новай музейнай экспазіцыі.

**Галіна БАРАВАЯ**

